










**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

17 лістапада 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 46 (2656)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.


ВЕСТКІ З СУПОЛАК

## БЕЛАРУСЫ МАСКВЫ АБ'ЯДНАЛІСЯ

Напрыканцы кастрычніка адбылася ўстаноўчая канферэнцыя па стварэнню нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Масквы". У яе рабоце прыняло ўдзел звыш 100 дэлегатаў, супрацоўнікі міністэрстваў і ведамстваў Расійскай Федэрацыі, мэрыі Масквы.

На канферэнцыі зацверджаны статут нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Масквы", абраны савет, у які ўвайшло 17 чалавек. Старшынёй савета НКА "Беларусы Масквы" стаў Мікалай Шляга.

З прывітаннямі да ўдзельнікаў канферэнцыі звярнуліся намеснік міністра па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў Расіі М. Лазутава, старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі А. Білык, прадстаўнікі нацыянальна-культурных аўтаномій украінцаў, казахаў, палякаў горада Масквы і іншыя.

ПАДПІСКА

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" нагадвае, што ідзе падпіска на наша выданне на першы квартал 2000 года.

На Беларусі, ва Украіне, у Літве, Кыргызстане, Казахстане, Расіі выпісвайце "Голас Радзімы" праз Каталог перыядычных выданняў. Індэкс — 63854. Пры немагчымасці гэта зрабіць можна даслаць паштовы перавод непасрэдна на адрас рэдакцыі (з абавязковым удакладненнем "За падпіску на "Голас Радзімы") з разліку 250 тысяч беларускіх рублёў на месяц — індывідуальная падпіска і 760 тысяч беларускіх рублёў — ведамасная, і газета абавязкова трапіць да вас.

Мы асоба звяртаемся да чытачоў у далёкім замежжы. З-за фінансавых цяжкасцей бясплатная рассылка штотыднёвіка паступова скарачаецца. Вашы ахвяраванні могуць падтрымаць газету. Валютны рахунак, на які трэба пераводзіць грошы (кошт падпіскі на год 80 долараў ЗША): 3012202935017, Славянскае аддзяленне Беларускага бізнесбанка, код 834, таксама абавязкова з паметкай "Для рэдакцыі газеты "Голас Радзімы".

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ, пішу да вас таму, што вельмі ўдзячная газеце за цікавыя і грунтоўныя артыкулы, якія закранаюць злабадзённыя тэмы. Гэтымі пытаннямі ў нашай краіне цікавяцца не толькі беларусы.

Па нацыянальнасці я полька. Скончыла Гродзенскі педінстытут, аддзяленне рускай мовы і літаратуры. Зараз выкладаю беларускую мову ў Гданьскім універсітэце. Я ў кантакце з Беларускім пасольствам і адтуль атрымліваю газету "Голас Радзімы".

Некаторыя артыкулы перакладаю разам са студэнтамі на рускую і польскую мовы. Часам у наш універсітэт прыязджаюць выкладчыкі з Гродзенскага універсітэта. Я перакладаю іх лекцыі, каб яны маглі друкавацца ў польскіх часопісах.

Самая вялікая праблема ў гэтай справе — адсутнасць слоўнікаў беларуска-рускіх і беларуска-польскіх. Можа вы падкажаце, як мне набыць слоўнік хаця б беларуска-рускі? У гэтым годзе вельмі шмат жадаючых вывучаць беларускую мову — 25 чалавек.

З павагай
**Леакадзія СУХВАЛА.**
Польшча.



## ТРЫУМФ ВІЦЕБСКАЙ «ЛЯЛЬКІ»

Заваёўваць іншыя народы і кантыненты можна не толькі з дапамогай зброі і агрэсіўнага нашэсця. Невялікі калектыў беларускага тэатра "Лялька" з трыумфам абвясціў аб сабе за апошнія гады ў Еўропе і Азіі, а ягоныя гастролі і фестывалі ў блізкім замежжы проста не злічыць.

Летась віцебскія лялечнікі аказаліся лепшымі сярод роднасных калектываў СНД у фестывальных агледзінах ва Украіне.

І вось новы трыумф беларускага тэатра "Лялька". На міжнародным фестывалі тэатраў у Югаславіі віцебскія лялечнікі "захапілі" амаль усе самыя прэстыжныя прэміі, уключаючы Гран-пры. Самай высокай узнагароды ўдастоены спектакль "Загубленая душа, альбо Пакаранне грэшніка". Нагадаем, што міжнародны фестываль лялечнікаў праходзіў у канцы кастрычніка ў Югаславіі з удзелам тэатраў Расіі, Грэцыі, Швейцарыі, Румыніі, Венгрыі, Балгарыі...

Нядаўна мастацкаму кіраўніку тэатра "Лялька" Віктару КЛІМЧУКУ (на здымку) прысвоена званне "Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

ВЫСТАВЫ

## НОВЫЯ СУСТРЭЧЫ З ПУШКІНЫМ







Завяршальным акордам Пушкінскага года стала мастацкая выстава "Здравствуй, племя молодое, незнакомое", што адкрылася ў мінскім Палацы мастацтва. Жывапіс, графіка, скульптура беларускіх мастакоў шырока раскрываюць творчасць і жыццёвы шлях А. Пушкіна. Упершыню разам з жывапісцамі свае работы паказала група фотамастакоў сталічнага фотаклуба "Мінск", якая здзейсніла паездку па пушкінскіх мясцінах.

НА ЗДЫМКАХ: знаёмства з выставай; Л. ШЧАМЯЛЁЎ. З трыпціха "Пушкін і яго час"; А. АНІКЕЙЧЫК "Святло Міхайлаўскага".

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

ТРАНСПАРТ



Менш 6 гадзін спатрэбіцца пасажырам хуткага поезда № 142/141, каб дабрацца з Гродна ў Мінск. Серыйны дызель-поезд, аднаўлены ў Лідскім лакаматыўным дэпо, разлічаны на 300 месцаў.

У поездзе адзін з вагонаў абсталяваны пад бар на 43 месцы, у якім маюцца тэлевізары, відэамагнітафон і музычны цэнтр. Усю дарогу пасажыры могуць слухаць музычныя праграмы і радыёперадачы.

НА ЗДЫМКАХ: новы хуткі поезд; у бар-вагоне поезда.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**



# У СЯОЦЮ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай

# «ДЫНАМІКА РАЗВІЦЦЯ КІТАЙСКА-БЕЛАРУСКІХ

Нягледзячы на вялікую геаграфічную адлегласць, паміж Кітаем і Беларуссю існуюць традыцыйныя дружба і супрацоўніцтва: яшчэ ў часы Савецкага Саюза дружалюбныя сувязі нашых краін былі вельмі цэнныя. Кітай адным з першых наладзіў дыпламатычныя адносіны з незалежнай Беларуссю. Пасля таго прайшло больш за 7 гадоў. За гэты невялікі па гістарычнай мерцы перыяд многае было зроблена ў развіцці стасункаў паміж нашымі краінамі дзякуючы намаганням абодвух бакоў.

Кітай надае вялікае значэнне сувязям з Беларуссю, разглядае Беларусь, адну з заснавальнікаў ААН, як важную краіну Еўропы, якая можа і павінна адыгрываць дастойную ролю ў міжнародных справах. Беларусь, у сваю чаргу, высока цэніць прэстыж і ролю Кітая ў свеце. Кітай і Беларусь маюць агульны погляд па шырокаму колу міжнародных пытанняў, краіны падтрымліваюць адна адну на міжнароднай арэне, а іх кіраўнікі маюць паміж сабой пастаянныя кантакты. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь двойчы — у 1995 і 1997 гадах — наведаў Кітай, некалькі ўрадавых дэлегацый таксама былі з візітам у Кітаі. Прэм'ер КНР Лі Пэн (цяпер спікер) наведаў Беларусь у 1995 годзе.

Развіццё міждзяржаўных адносін дзвюх краін, дасягнутыя на вышэйшым узроўні дамоўленасці і падпісаныя пагадненні (іх больш за 30) плённа ажыццяўляюцца.

Гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва Кітая і Беларусі таксама развіваецца паспяхова, хаця яго патэнцыял яшчэ далёка не вычарпаны. У эканоміцы дзвюх краін існуе пэўная ўзаемадапаўняльнасць, у гандлі назіраецца ўзаемны попыт. У Беларусі больш развітыя базавыя прамысловыя галіны і больш высокая падрыхтаванасць навукова-даследчай галіны. Кітай жа можа прапанаваць Беларусі шырокую гаму тавараў сваёй вытворчасці. Эканоміка ў Кітаі расце хутка і ўстойліва, і на гэтай аснове знешнеэканамічнае супрацоўніцтва таксама няўхільна развіваецца, таму беларускія тавары пры адпаведнай канкурэнтаздольнасці па цэнах і якасці заўсёды знойдуць рынак у Кітаі.

Супрацоўніцтва ў галіне навукі і тэхнікі можна лічыць адным з найбольш важных дасягненняў у нашых адносінах. На сённяшні дзень толькі па міжурадавай лініі складзена звыш 400 праектаў супрацоўніцтва, дзесяткі з іх ужо рэалізаваны ці рэалізуюцца. Летась былі праведзены Дні навукі і тэхнікі Беларусі ў Кітаі, у час якіх абодва бакі дамовіліся аб цесным супрацоўніцтве. Думаю, тут у нас выдатныя перспектывы.

Паміж нашымі дзяржавамі падпісана доўгатэрміновае пагадненне аб стасунках у галіне культуры. Згодна з ім сёлета ў чэрвені ў Кітаі з вялікім поспехам прайшлі Дні культуры Беларусі, а ў 2000 годзе плануюцца Дні культуры Кітая ў вашай краіне. Акрамя таго, абдуцца гастролі музычных, танцавальных, балетных калектываў. У кастрычніку ўпершыню Беларусь наведала трупа Пекінскай оперы.

Вельмі хутка развіваецца супрацоўніцтва ў галіне адукацыі.

МАРШРУТАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# ХТО ЧАКАЕ ТУРЫСТАЎ?

**Днямі ў нацыянальным парку "Нарачанскі" прайшоў семінар па пытаннях перспектыў развіцця турызму і ўдасканалення айчыннай турыстычнай інфраструктуры.**

Мяркуючы па выніках бягучага года, беларускія месцы адпачынку — нацыянальныя паркі і запаведнікі — становяцца ўсё больш прыцягальнымі і для беларусаў, і для замежных гасцей. Магчыма, таму садзейнічала вельмі цёплае лета, бо, нягледзячы на немалы пакет прапаноў, попыт не быў задаволены поўнасцю.

У гэтым годзе нацыянальнымі паркамі і запаведнікамі былі заключаны 44 доўгатэрміновыя кантракты з турыстычнымі фірмамі. У нацыянальных парках і запаведніках пабывала каля 53 тысяч турыстаў, было праведзена звыш 4 тысяч экскурсій, загрузка турыстычных комплексаў узрасла амаль у два разы. У цэлым выручка ад турызму за гэты перыяд склала больш за 84 мільярды рублёў. Значна расшыраны сервісныя паслугі, выручка ад іх склала амаль 9 мільярдаў рублёў.

Што ж тычыцца работы турыстычнай галіны ў цэлым, то ўнутраны турызм у нашай краіне становіцца масавым. Мяркуючы па выніках гэтага года, ухіл у бок замежнага адпачынку беларусамі нарэшце пераадолены. У першую чаргу, таму, што ў рэспубліцы рэканструявана ці адбудавана ўся турыстычная база. Колькасць месцаў на турбазах у катэджах і доміках паляўнічых павялічылася ў параўнанні з 1994 годам больш як у 10 разоў. Чатыры турыстычныя цеплаходы выконваюць ролю плывучых атэляў. Падрыхтавана 47 новых месцаў турыстычных стаянак, капітальна рэканструявана гасцініца ў Бярэзінскім запаведніку. Па міжнародных стандартах, яна адпавядае 4-зоркаваму атэлю. Адноўлены таксама комплекс "Плаўна", турбаза "Дрывяты", пабудавана новая база "Золава" на Браслаўскіх азёрах.

Але нават самай камфартабельнай базы адпачынку недастаткова для масавага прыцягнення турыстаў, асабліва замежных. Галоўныя іх патрабаванні да турыстычных паслуг — бяспека, прыгажосць і цана. Ужо цяпер на ўсіх турыстычных аб'ектах адпачываючым гарантуюць поўную бяспеку адпачынку і захаванасць маёмасці. А прыгажосцю наш край не пакрыўджаны. Праўда, патрабуе дапрацоўкі цэнаўтварэнне. Цяпер ідзе яго карэкціроўка з улікам рэкамендацый турыстычных фірм, попыту і прапановы. Будзем спадзявацца, што камбінацыя гэтых трох складаючых будзе вызначана правільна і наступны турыстычны сезон стане яшчэ больш выніковым.

ХРОНІКА ПАДЗЕЙ

**РАЗВІЦЦЁ АДНОСІН З ЗАХОДНЯЙ ЕЎРОПАЙ — АДЗІН З ПРЫЯРЫТЭТАЎ ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫКІ БЕЛАРУСІ.** Шляхі нармалізацыі палітычных адносінаў паміж Беларуссю і Еўрапейскім саюзам абмяркоўваліся на пачатку лістапада ў ходзе сустрэчы кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіла Мясніковіча з прадстаўнікамі "тройкі" Еўрасаюза, якія наведалі з афіцыйным візітам Мінск. У "тройку" Еўрасаюза ў час гэтага візіту ў Беларусь увайшлі высокапастаўленыя супрацоўнікі знешнепалітычных ведамстваў Фінляндыі і Партугаліі, а таксама прадстаўнікі Еўрапейскай камісіі. На сустрэчы з Міхаілам Мясніковічам прысутнічалі таксама кіраўнікі дыпламатычных місій Фінляндыі і Францыі ў нашай краіне Раума Віемера і Бернар Фасье.

У ходзе праведзеных перагавораў Міхаіл Мясніковіч выказаў надзею, што прыезд прадстаўнікоў "тройкі" ў Беларусь умацуе ўзаемаразуменне паміж нашай краінай і Еўрапейскім саюзам. "Развіццё адносінаў з Заходняй Еўропай — адзін з прыярытэтаў знешняй палітыкі краіны", — падкрэсліў ён.

Кіраўнік Адміністрацыі беларускага Прэзідэнта таксама заявіў, што афіцыйны Мінск мае намер зрабіць усё магчымае, каб выбары ў парламент краіны 2000 года былі адкрытымі і дэмакратычнымі. "Мы ўдасканальваем заканадаўства і ўпэўнены, што яно будзе адпавядаць самым жорсткім сусветным патрабаванням".

**СТАРШЫНЁЙ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ НА З'ЕЗДЗЕ БНФ, ЯКІ ПРАЙШОЎ НЯДАЎНА, БОЛЬШАСЦЮ ГАЛАСОЎ АБРАНЫ ВІНЦУК ВЯЧОРКА.** Як перадае агенцтва "Інтэрфакс", група членаў Беларускага народнага фронту, які раскалоўся, зрабіла ў Мінску спробу сарваць з'езд. Больш дзесятка чалавек на чале з Юрыем Беленькім і Сяргеем Папковым зачыніліся ў памяшканні Палаца культуры тонкасуконнага камбіната і нікога туды не прапускалі.

Аднак галасаванне ўсё ж адбылося. У ім прынялі ўдзел 242 дэлегаты з'езда. За маладога лідэра прагаласавалі 228 фронтаўцаў, супраць — 11. Зянон Пазняк, які быў лідэрам фронту на працягу больш дзесяці год, набраў усяго 11 галасоў.

НЕЗАБЫЎНАЕ





"ПАД СЯННО НАС МОЦНА БІЛІ", — прызнаваўся ў сваіх мемуарах былы гітлераўскі генералтанкіст Гудэрыян. Пайсці на такую шчырасць яго прымусілі мужнасць і самаадданасць воінаў-чырвонаармейцаў, якія аказалі на палях Смаленшчыны ў ліпені 1941 года стойкае супраціўленне ворагу, што дазволіла навят перайсці ў контрнаступленне і адкінуць захопнікаў на некалькі дзесяткаў кіламетраў.

Сенненскі раён у час Вялікай Айчыннай вайны быў месцам масавай дыслакацыі многіх партызанскіх злучэнняў, якія поўнасцю кантралявалі перамяшчэнне войск праціўніка і часта парушалі планы ворага. Сведчанне таго — шматлікія пасляваенныя знаходкі баявой тэхнікі, зброя, асабістыя рэчы байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі і партызан. А днямі ў Сянно адбылося яшчэ адно, ужо пятае перазахаванне 189 воінаў і мірных жыхароў, якія загінулі ў гады вайны на тэрыторыі раёна. Як расказаў кіраўнік ваенна-патрыятычнага клуба "Памяць" Аляксандр Жудро, у раёне прынята праграма ўвекавечвання памяці загінуўшых, у адпаведнасці з ёю праводзіцца паспартызацыя ўсіх месцаў гібелі людзей. Вось ужо два гады адзін з армейскіх узводаў сапёрнай роты, які ўзначальвае капітан Аляксандр Няфёдаў, вядзе пошукі астанкаў загінуўшых. Для іх перазахавання адведзена спецыяльнае месца на могілках у райцэнтры.

НА ЗДЫМКАХ: "...і мой недзе гэтак жа"; у час мітынгу.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

БІЗНЕС-КЛУБ

# У АМСТЭРДАМЕ АДКРЫТА АДДЗЯЛЕННЕ БАСЗІ

У Амстэрдаме (Нідэрланды) адкрыта аддзяленне Беларускага агенцтва садзейнічання замежным інвестыцыям, паведаміў генеральны дырэктар агенцтва Вадзім Цітавец на прэс-канферэнцыі, прысвечанай выніка візіту афіцыйнай дэлегацыі дзелавых колаў Беларусі ў краіны Бенілюкс. Яно размясцілася ў памяшканні Расійскага цэнтра садзейнічання інвестыцыям пры Міністэрстве эканомікі Расіі ў краінах Бенілюкс.

Па словах В. Цітаўца, у час візіту ў беларускай дэлегацыі адбыліся сустрэчы з кіраўніцтвам Бельгійскага офіса знешняга гандлю, Гандлёвай палаты Бельгіі, Нідэрландскага савета садзейнічання гандлю, Праграмы садзейнічання кіраванню Нідэрландаў, фонду "Новая Еўропа".

Ён паведаміў, што БАСЗІ падпісала з БОЗГ пагадненне аб супрацоўніцтве, накіраванае на развіццё гандлёва-эканамічных адносін паміж Беларуссю і Бельгіяй. Спецыялісты БАСЗІ прадаставілі прадстаўнікам бельгійскіх дзелавых колаў падрабязную інфармацыю аб інвестыцыйных магчымасцях беларускіх прадпрыемстваў, канкурэнтных перавагах Беларусі, прэзентавалі канкрэтныя інвестыцыйныя праекты беларускіх прадпрыемстваў.

Як паведаміў В. Цітавец, у Гаазе (Нідэрланды) БАСЗІ прыняло ўдзел у семінары "Перспектывы інвестыцыйнага і гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва з Беларуссю". Па выніках перамоў з кіраўніцтвам Нідэрландскай праграмы садзейнічання гандлю, кіраўнікамі электроннай базы даных інвестыцыйных праектаў HINTS былі заключаны папярэднія пагадненні аб супрацоўніцтве, накіраваныя на распаўсюджанне ў дзяржавах Бенілюкс інфармацыі аб Беларусі, канкрэтных інвестыцыйных праектах і прадпрыемствах.

**Даведка.** Беларускае агенцтва садзейнічання інвестыцыям (БАСЗІ) заснавана па рашэнню ўрада Беларусі ў адпаведнасці з Нацыянальнай праграмай прыцягнення інвестыцый у эканоміку краіны. БАСЗІ павінна прыцягваць прамыя інвестыцыі і аказваць усебаковую падтрымку замежным інвестарам і мясцовым прадпрыемствам у рэалізацыі інвестыцыйных праектаў на тэрыторыі краіны. Агенцтва выступае сувязным звяном паміж замежнымі інвестарамі і беларускімі прадпрыемствамі, органамі дзяржаўнага кіравання.



## Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь:

# АДНОСІН АБНАДЗЕЙВАЕ»

Згодна з міжурадавым пагадненнем абодва бакі штогод абмяньваюцца студэнтамі. Сёння ў Беларусі вучацца некалькі соцень кітайскіх юнакоў і дзяўчат.

Кантакты паміж грамадскімі арганізацыямі і рэгіёнамі нашых краін таксама пашыраюцца. Ужо склалася 7 пар гарадоў-пабрацімаў, яшчэ некалькі гарадоў збіраюцца наладзіць такія адносіны.

Дзейнасць таварыстваў дружбы дзвюх краін — адна з самых дынамічных сфер супрацоўніцтва. Адразу пасля ўстанаўлення дыпламатычных адносін у 1992 годзе было створана Таварыства кітайска-беларускай дружбы, і тады ж накіравана кітайская дэлегацыя для наладжвання прамых кантактаў з Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. У 1994—1997 гадах Кітайска-беларускім таварыствам дружбы арганізаваны візіты ў Беларусь груп мэраў, прадпрымальнікаў. У маі гэтага года дэлегацыя Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі на чале з намеснікам старшыні спадарыняй Івановай упершыню пабывала ў Пекіне, Шанхаі і Сучжоу. У час візіту дасягнута дамоўленасць аб напрамках далейшага супрацоўніцтва, у тым ліку аб візіце ў адказ дэлегацыі Кітайскага народнага таварыства дружбы ў 2000 годзе.

Беларускае таварыства дружбы і Беларуска-кітайскае таварыства дружбы штогод праводзяць мерапрыемствы з нагоды юбілейных дат і буйных падзей у жыцці кітайскага народа, арганізуюць лекцыі, сімпозіумы, выставы, што ўмацоўвае ўзаемаразуменне нашых народаў. Па лініі жаночых арганізацый таксама наладжаны кантакты, і ў чэрвені дэлегацыя Усекітайскай федэрацыі жанчын зрабіла першы візіт у Беларусь.

Я перакананa, што амаль ва ўсіх галінах нашых двухбаковых адносін ёсць нямала патэнцыяльных магчымасцей для развіцця і паглыблення ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

### У СКАРБОНКУ ЗАПАВЕДНІКАЎ



БелТА.

Сёлета больш актыўна сталі папаўняцца бюджэты нацыянальных запаведнікаў за кошт экалагічнага збору з аўтатранспарту, што праязджае па тэрыторыі запаведнікаў.

НА ЗДЫМКУ: на ўездзе ў Браслаўскую запаведную зону працуе інспектар міліцыі Ірына КАЧАН (справа).

### ЗДАРЭННІ

## ЛЯТАЛЬНЫ АПАРАТ УПАЎ У ТАПІЛІШКАХ

Трагедыяй скончыўся палёт на "Санце" — самаробным лятальным апараце, які ажыццяўляў пілот з гродзенскага авіяцыйна-тэхнічнага клуба "Віраж": самалёт пацярпеў аварыю.

У вёсцы Тапілішкі, што ў Шчучынскім раёне, у гадзіну дня на вуліцы прагучаў выбух. Усе, хто трапіў на месца здарэння, убачылі сумную карціну: разбіты лятальны апарат і целы пілота і пасажыра "Санты", якія загінулі на месцы.

## ХІТРЫЯ ВАЎКІ

Ахвярай зграі ваўкоў у вёсцы Кончыцы Пінскага раёна стала жарабя. На думку мясцовых паляўнічтвазнаўцаў, "навучальны" рэйд у населены пункт для сваіх ваўчанят арганізавала мацёрая ваўчыха. Пасля "ўрока" яна спрытна адвяла патомства ад ружэйных выстралаў. Нягледзячы на вялікія ганарары (10 "мінімалак" за шкуру дарослага ваўка), паляўнічыя пакуль бяссільныя перад гэтым хітрым зверам, што наносіць гаспадаркам немалы ўрон. Сітуацыя зменіцца зімой. Тады па воўчаму следу пойдуць спецыяльныя брыгады. Летась на тэрыторыі Пінскага раёна было знішчана больш за 60 драпежнікаў.

## "МАНАХ" ДАВЕРУ НЕ АПРАЎДАЎ

На працягу гадзіны супрацоўнікі міліцыі затрымалі нячыстага на руку "манаха", які спрабаваў украсці буйную суму грошай, сабраных на добраўпарадкаванне касцёла ў вёсцы Нарач Мядзельскага раёна.

Як паведамілі ва Упраўленні ўнутраных спраў Мінаблвыканкама, вечарам 2 лістапада ў міліцыю звярнуўся настаяцель прыходу святога Андрэя Апостала. Ён паведаміў, што ў яго былі ўкрадзены ахвяраванні прыхаджан — каля трох тысяч долараў, больш дзвюх тысяч польскіх злотых, 200 нямецкіх марак, 50 літаў і больш за 250 мільёнаў беларускіх рублёў.

Падазрэнні свяшчэннаслужыцеля палі на чалавека, які на працягу некаторага часу аказваў яму дапамогу па гаспадарцы. Прычым госць прадставіўся манахам, што яшчэ больш умацавала давер нарачанскага ксяндза. Аднак "служыцель Госпада" аказаўся прайдзісветам. Скарыстаўшы адсутнасць гаспадара, ён узяў грошы і спрабаваў уцячы. Але супрацоўнікі патрульна-паставой службы неўзабаве затрымалі "манаха" разам са здабычай. Ім аказаўся 33-гадовы жыхар Масквы.

### НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

# ЦЭНТР ГІСТАРЫЧНАЙ ДУМКІ

З пазіцый афіцыйных установак трактавалася гісторыя беларускіх земляў у часы Вялікага княства Літоўскага. Падкрэсліваўся выключна літоўскі характар дзяржавы, чужой для беларусаў. Ігнараваўся дзяржаўны статус старабеларускай мовы, дасягненні ў развіцці кнігадрукавання, літаратуры, права, мастацтва. "Сцвярджэнне беларускіх нацыяналістаў аб тым, — падкрэслівалася ў тэзісах, — што пад уладаю літоўскіх князёў беларускі народ перажываў "залаты век" сваёй гісторыі, з'яўляецца самым бессаромным скажэннем гістарычнай рэчаіснасці, здзекам з беларускага народа і яго гісторыі".

У гэты час у краіне разгортвалася новая ідэалагічная кампанія — барацьба з касмапалітызмам. Пачаліся арышты асоб яўрэйскай нацыянальнасці. У лістападзе 1948 года беспадстаўна былі арыштаваны старшыя навуковыя супрацоўнікі інстытута Я. Шлосберг і М. Поташ. Узнікла пагроза звальнення з пасады дырэктара інстытута М. Нікольскага, які шмат зрабіў для аднаўлення работы ў пасляваенны час. Пачалася кампанія жорсткай крытыкі інстытута, пошукаў кандыдатуры на пасаду дырэктара. Але ўлады не адважыліся пайсці на замену кіраўніцтва інстытута: вельмі значнай была фігура акадэміка. Акрамя таго, у 1945 годзе М. Нікольскі ўступіў у камуністычную партыю, а ў 1946-м яго абралі членам-карэспандэнтам АН СССР. Такім чынам, ён застаўся на пасадзе дырэктара да 1953 года.

У такіх складаных умовах рыхтавалася "История Белорусской ССР" у трох частках, выдадзеная на правах рукапісу ў канцы 1948 года. У красавіку 1949 года рукапіс быў абмеркаваны на пасяджэнні Аддзялення грамадскіх навук АН БССР. Кожны том праходзіў таксама рэцэнзаванне ў Інстытуце гісторыі АН СССР. Пасля гэтага з афіцыйнай устаноўкай "недапушчэння здзекаў з гісторыі" над кнігай працягвалася праца ў калектыве інстытута. У 1952 годзе быў надрукаваны варыянт у двух тамах, якія пачалі рыхтаваць да друку. У 1954 годзе першы том "Истории Белорусской ССР" пабачыў свет. Ён ахопліваў перыяд гісторыі беларускага народа ад старажытных часоў да лютаўскай рэвалюцыі 1917 года ўключна. Асноўны ўклад у распрацоўку першага тома ўнеслі дактары гістарычных навук М. Нікольскі, У. Перцаў, А. П'янкоў, кандыдаты гістарычных навук А. Воранава, М. Грынблат, К. Палікарповіч, К. Шабуня і іншыя.

І. КРАЎЧАНКА.

З канца 40-х гадоў вучоныя інстытута актывізавалі даследаванні па гісторыі сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР. У сувязі з гэтым узнікла неабходнасць унесці змяненні ў структуру інстытута. У студзені 1951 года сектар гісторыі СССР і БССР быў раздзелены на два самастойныя сектары: гісторыі Беларусі да Кастрычніцкай рэвалюцыі (загадчык — кандыдат гістарычных навук Е. Лук'янаў) і гісторыі савецкай Беларусі (загадчык — кандыдат гістарычных навук Н. Каменская).



К. ШАБУНЯ.

Важнае значэнне для развіцця гістарычнай навукі, павышэння ўзроўню даследаванняў вучоных інстытута мелі рашэнні XX з'езда КПСС. Некаторая лібералізацыя палітычнага жыцця садзейнічала перагляду тэматыкі даследаванняў, правядзенню пэўных структурных змен. У 1956 годзе пачаў дзейнасць сектар публікацыі дакументаў і матэрыялаў, які ўзначаліў кандыдат гістарычных навук К. Шабуня. Гэтае навуковае падраздзяленне праіснавала да 1959 года. Яго калектыў правёў значную работу па выяўленні крыніц, складанні і выданні зборнікаў дакументаў. Разам з Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ былі выдадзены дакументальныя зборнікі "Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии" ў 2-х тамах (1957), "Комитеты бедноты Белоруссии" (1958).

Для сярэдзіны 50-х — пачатку 60-х гадоў было характэрна далейшае паляпшэнне кадравага патэнцыялу інстытута. У 1957 годзе доктарскую дысертацыю абараніў І. Саладкоў, у 1958-м — Н. Каменская і І. Краўчанка, у 1962 годзе — К. Шабуня, у 1963-м — А. Залескі.

У гэты час інстытут папоўніла новае пакаленне таленавітых гісторыкаў. Сярод іх — Л. Побаль (1955), В. Мялешка і У. Палуян (1956), П. Казлоўскі, У. Лемяшонак, А. Хацкевіч (1957), Г. Штыхаў (1959), С. Вайтовіч і П. Селіванаў (1960), П. Петрыкаў (1961), Л. Лыч (1962), А. Сарокін (1965) і іншыя. Пазней усе яны сталі дактарамі навук, унеслі значны ўклад у развіццё гісторыі Беларусі. Па стану на 1 студзеня 1964 года ў інстытуце працавалі 69 навуковых супрацоўнікаў, сярод іх два дактары і 27 кандыдатаў навук, 12 лабарантаў, пяць работнікаў абслугоўваючага персаналу, усяго 86 чалавек. З 1953-га па 1964 год дырэктарам інстытута працаваў І. Краўчанка.

З сярэдзіны 50-х гадоў вучоныя інстытута пашырылі навуковыя даследаванні па ўсіх перыядах гісторыі Беларусі. У 1958 годзе выйшаў з друку другі том "Гісторыі Беларускай ССР" пад рэдакцыяй І. Краўчанкі і Н. Каменскай. Аўтары — кандыдаты гістарычных навук В. Гняўко, М. Завалееў, Я. Лук'янаў, І. Марчанка, В. Мілаванаў і іншыя. Так завяршылася шматгадовая работа вялікага калектыву па напісанні абагульняючай працы. Нягледзячы на шэраг недахопаў, дадзеная праца атрымала станоўчую ацэнку грамадскасці. У 1961 годзе было ажыццёўлена другое, дапоўненае выданне калектыўнай працы.

У гэты перыяд пабачылі свет работы вучоных інстытута, прысвечаныя розным праблемам гісторыі Беларусі. Я. Карнейчык даследаваў тэму вайны 1812 года на Беларусі, рабочы і сялянскі рух напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гадоў вывучалі А. Воранава, Л. Ліпінскі, Я. Лук'янаў, В. Шаціла, К. Шабуня; работы Н. Каменскай, В. Гняўко, І. Марчанкі паклалі пачатак навуковай распрацоўцы розных пытанняў гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі; праблемам сацыялістычнага будаўніцтва прысвяцілі свае манаграфіі М. Завалееў, А. Захватаева і іншыя.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 43, 44.**

**Уладзімір НАВІЦКІ,**
**доктар гістарычных навук.**

### ФУТБОЛ

# ЭКС-ЧЭМПІЁН ЗАСТАЕЦЦА БЕЗ УЗНАГАРОД

Фінішаваў 9-ты чэмпіянат Беларусі па футболу ў вышэйшай лізе. Гульні для большасці каманд сталі звычайнай фармальнасцю: чэмпіён ужо вызначыўся некалькі тураў таму, як, дарэчы, і клубы, што пакінуць дывізіён мацнейшых. Невядомымі заставаліся толькі ўладальнікі сярэбраных і бронзавых медалёў. Згодна з папярэднімі прагнозамі, другое месца на фінішы заваявала "Славія". Мазыранам заставалася толькі дома паспяхова згуляць са сталічным "Тарпеда-МАЗ", бо каманда Анатоля Юрэвіча здольная на сюрпрызы. Але ж на гэты раз абышлося без іх: палескія футбалісты абыгралі мінчан 2:0, што гарантавала ім яшчэ і выхад на еўрапейскую арэну.

Не змог вытрымаць заключнага этапу чэмпіянату мінулагодні чэмпіён — "Днепр-Трансмаш". Футбольны каляндар "падкінуў" магіляўчанам на "дэсерт" выезд у Салігорск, што і пазбавіла экс-чэмпіёна шанцаў на бронзу — "Шахцёр" выйграў з лікам 1:0. Пры такім раскладзе адзін з "кандыдатаў" на 3-е месца — "Гомель" — мог нават прайграць "Лідзе". Але гамяльчане перамаглі з лікам 4:1. Магчыма, такога "подзвігу" патрабавалі ад сваіх любімцаў і балельшчыкі мінскага "Дынама", якое перасякала фінішную прамую ў Барысаве. Праўда, паўтарыць поспех першага круга, калі "Дынама" выйграла ў барысаўчан з лікам 1:0, не ўдалося. Гаспадары ўзялі рэванш з лікам 2:0, хоць і далася ім гэтая перамога з боем, бо сталічныя "фаны" пад заслону гульні наладзілі з мясцовымі балельшчыкамі бойку. Уціхамірыць прыезджых удалося толькі міліцыі.

**Па выніках 9-га чэмпіянату Беларусі вышэйшую лігу пакідаюць "Маладзечна" і "Свіслач-Кроўля". Іх месцы ў наступным сезоне зоймуць слонімскі "Камунальнік" і рэчыцкі "Ведрыч".**

Вось як выглядае турнірная табліца 9-га чэмпіянату Беларусі па футболу:

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 30 | 24 | 5 | 1 | 80-22 | 77 |
| 2. Славія | 30 | 20 | 5 | 5 | 74-25 | 67 |
| 3. Гомель | 30 | 19 | 6 | 5 | 57-28 | 63 |
| 4. Днепр-Трансмаш | 30 | 17 | 9 | 4 | 53-27 | 60 |
| 5. Шахцёр | 30 | 18 | 5 | 7 | 58-30 | 59 |
| 6. Дынама (Мн) | 30 | 14 | 9 | 7 | 51-30 | 51 |
| 7. Дынама (Бр) | 30 | 14 | 4 | 12 | 59-52 | 46 |
| 8. Белшына | 30 | 13 | 6 | 11 | 52-42 | 45 |
| 9. Нёман-Белкард | 30 | 10 | 7 | 13 | 36-43 | 37 |
| 10. Тарпеда-МАЗ | 30 | 10 | 5 | 15 | 31-47 | 35 |
| 11. Лакаматыў-96 | 30 | 9 | 7 | 14 | 40-45 | 34 |
| 12. Нафтан-Дэвон | 30 | 8 | 4 | 18 | 39-63 | 28 |
| 13. Ліда | 30 | 7 | 4 | 19 | 27-64 | 25 |
| 14. Тарпеда-Кадзіна | 30 | 6 | 5 | 19 | 30-69 | 23 |
| 15. Свіслач-Кроўля | 30 | 4 | 4 | 22 | 24-74 | 16 |
| 16. Маладзечна | 30 | 2 | 5 | 23 | 21-71 | 11 |

НАРОДЫ БЕЛАРУСІ

# ТАТАРЫ-КАЗАКІ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Паводле даных перапісу 1989 года, на тэрыторыі Беларусі жыло 12,5 тысячы татар. Узаемаадносіны паміж імі і карэнным насельніцтвам заўсёды ладзіліся, і размаўлялі яны на адной мове — беларускай.

Разам абаранялі дзяржаву ад ворагаў. У тым ліку і татары-казакі, якія размяшчаліся ў розных мясцінах нашай краіны, мелі сваіх атаманаў і падпарадкоўваліся харунжым. Цюркскае слова "казак" азначала ў ардзе людзей, якія, парваўшы сувязь са сваім родам і ўласным князем, займаліся ваеннай справай. Яны заставаліся нібы за рамкамі феадальна-ўласніцкай структуры, ардынскай супольнасці. У іх атрадах былі не толькі простыя воіны, але і выхадцы са знаці, царэвічы, якія дзейнічалі самастойна, на свой страх і рызыку. У Попісах войска татарскага 1528—1567 гадоў упамінаюцца атаманы, якія ўзначальвалі слаўныя сцягі ласаснянскіх татар-казакаў.

У басейне ракі Ласасянкі і яе прытоках былі паселішчы ў асноўным хутарскога тыпу, на адну-дзве сям'і. Усе землі ўваходзілі ў Гарадзенскую каралеўскую эканомію. У тыя часы да паселішчаў хутарскога тыпу адносіліся Кульбакаўшчына, Абердоўшчына, Багдашчына, Качаноўшчына, Казакоўшчына, Жыдоўшчына, Ласосна Алінская і іншыя. Недалёка ад ракі Ласасянкі таксама знаходзіліся татарскія вёскі: Дайлідкі на левым прытоку ракі Нурац (зараз Татаркі), вёскі Караліно, Тарусічы (цяпер Баранавіцкага сельсавета) і вёска Гневеншчызна Каробчыцкага сельсавета. Найбольш старымі татарскімі паселішчамі на тэрыторыі сённяшняга Гродзенскага раёна былі вёскі Чортэк і Кадыш на рацэ Чорная Ганча і вёска Малое Дзіміткава непадалёку ад ракі Ласасянкі, а таксама Свяцк (Сапоцкінская сельсавета).

У архіўных паперах значацца і прозвішчы татар, былых жыхароў паселішчаў: Ізмаіл Сяхновіч, Кульзіман Аразовіч, Кульзіман Касімовіч, Джанчук Фатлыговіч, Асан Бузіновіч і іншыя. Значацца прозвішчы князёў, якія займалі адказныя пасады. У тым ліку мусульманскіх святароў, мулаў былой ласаснянскай мячэці, што паходзілі з прадстаўнікоў княжацкага роду — Фатлагодзічаў і Бузуловічаў.

Пасля князёў ніжэйшыя пасады займалі "уланы", у тым ліку: Ахмет Улан Асанчуковіч, Чумбай Улан Малошыцкі і Дзімідаўскія.

Месціліся яны ў ваколіцах цяперашняй вёскі Ласосна Баранавіцкага сельсавета Гродзенскага павета, у басейне ракі Ласасянкі і яе прытокаў.

У тыя часы ў татар-казакаў адзінкай вымярэння быў "конь", гэта значыць, што надзел зямлі, або маёнтак, з якога ўладальнік, у адпаведнасці з тагачаснымі нормамі, мусіў выстаўляць аднаго конніка. Памеры ўчасткаў не былі дакладна вызначаны, асабліва ў ваколіцах ракі Ласасянкі. Першыя зямельныя дараванні татарам-казакам адносяцца да часоў славутага князя Вітаўта. Зямля давалася татарам агулам, цэлым групам. Тады і ўзніклі татарскія казацкія ваколіцы. Зямельныя надзелы іх даходзілі на захадзе да вёсак Дзіміткава, Мішкенікі, Путна, Саломенкі і Іванаўцы.

Ласаснянскія татары-казакі ў асноўным займаліся земляробствам, конегадоўляй, кушнерствам, агародніцтвам і гадоўляй рыбы, асабліва ласося, а таксама стронгі, якая даўней мела назву лох, адсюль назва рэчак і населеных пунктаў — Лоша, Лаша...

Апрача гэтага, асобныя з татар-казакаў служылі ў тыя часы ў канцылярыях вялікіх князёў талмачамі, татарскімі пісарамі, ездзілі ў Вялікую Арду і Крым з адказнымі даручэннямі.

Але праходзілі гады, змяняліся ўмовы жыцця. І ўжо ў сярэдзіне XVI стагоддзя беларускія татары, у тым ліку і ласаснянскія татары-казакі, пачалі карыстацца іншымі мовамі, у асноўным беларускай і польскай. Яны ўжо не маглі размаўляць з жыхарамі мусульманскіх краін. Адбыліся працэсы моўнай асіміляцыі татар. Гэтаму паспрыялі, галоўным чынам, змяшаныя шлюбы, бо ў многіх татар не было сваіх жанчын, а таму і жаніліся з беларускамі, праўда, з умовай, што будуць меці толькі адну жонку. Але ўсё ж, нягледзячы на гэта, беларускія татары, у тым ліку і татары-казакі ласаснянскія, яшчэ доўгі час зберагалі свае адметныя рысы, не знікалі ў агульнай масе насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, таму што працягвалі вызнаваць іслам.

XVII стагоддзе — самы цяжкі перыяд для ласаснянскіх татар. Рост нецярпімасці, актыўны ўдзел татар у войнах першай паловы XVII стагоддзя, неўрадлівыя землі па цячэнні ракі Ласасянкі і яе прытокаў, судовыя прэтэнзіі магнатаў і буйной шляхты на татарскія землі — усё гэта выклікала масавы адток татар з раёна ракі Ласасянкі. Большасць з іх эмігравала ў Турцыю. Частка татар перасялілася ў іншыя мясціны Вялікага княства Літоўскага, асабліва многа выехала ў горад Слонім.

Раздзел Рэчы Паспалітай і ўвядзенне расійскай адміністрацыі яшчэ больш узмацніла складаную сітуацыю.

На вялікі жаль, шмат чаго з нацыянальнага здабытку татар загінула. Змрочныя, цяжкія гады сталінскіх рэпрэсій парушылі ход развіцця татарскай культуры. Многія прадстаўнікі нацыі, баючыся, што іх можа напаткаць лёс крымскіх татар, пакінулі сваю радзіму Беларусь, выехалі ў іншыя краіны. У выніку гэтага і з улікам шматвяковай асіміляцыі з беларусамі татар засталося мала, у тым ліку і ў ваколіцах Ласосны. Тут да 1915 года дзейнічала татарская мячэць. Было шмат розных татарскіх будынкаў, захоўваліся татарскія могілкі. Зараз усё гэта знікла.

Сёння, калі пачаўся працэс адраджэння нацыянальнай свядомасці, нельга мірыцца з забыццём сваёй духоўнай спадчыны. Абавязак кожнага грамадзяніна — захаваць і зберагчы для нашчадкаў тое, што ўцалела.

Вясной 1996 года мусульманская суполка Гародні запланавала распачаць у лесапарку Румлёва будаўніцтва мячэці. Узнікае пытанне, а чаму ў Румлёве, а не ў Ласосне пад Гароднай, дзе да 1915 года і была мячэць.

Я, як краязнавец, член рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, лічу мэтазгодным аб'явіць ваколіцы Ласосны (пойму ракі Ласасянкі і яе прытокаў) гістарычным запаведнікам былой татаршчыны і ўзяць пад ахову дзяржавы. Выказваю меркаванне пабудаваць у гэтай гістарычнай зоне мячэць, школу, музей, гасцёўню, нацыянальную кавярню і іншыя ўстановы беларускіх татар.

**Апанас ЦЫХУН,**
**член рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.**

ДА 2000-годдзя ХРЫСЦІЯНСТВА

Увесь свет ідзе да завяршэння другога тысячагоддзя, рыхтуючыся ўрачыста адзначыць надзвычайную падзею. А для праваслаўнай царквы гэта асаблівае свята: спаўняецца дзве тысячы год хрысціянству. Галоўнай прыкметай падрыхтоўкі стала абнаўленне храмаў. Сярод іх і царква Святой Марыі Магдалены ў Мінску. Маючы шаноўны стопяцідзесяцігадовы ўзрост, храм працяглы час быў зачынены і толькі ў 1990 годзе адроджаны. І цяпер унутранае ўбранства царквы набывае новае аблічча. Група мастакоў пад кіраўніцтвам Віктара Доўнара ўжо трэці год працуе над роспісам інтэр'ера. Сярод традыцыйных для царквы сюжэтаў і вобразаў святых ствараюцца фрэскі з лікамі беларускіх святых. Сярод іх — Ефрасіння Полацкая, Сафія Слуцкая, Кірыла Тураўскі і іншыя. Да вялікага юбілею хрысціянства старажытная царква паўстане перад прыхаджанамі ў абноўленым святочным уборы.



НА ЗДЫМКАХ: мазаічная ікона Святой Марыі Магдалены па эскізах мастака Віктара БАРАБАНЦАВА ўпрыгожвае ўваход у храм; Віктар ДОЎНАР працуе над фрэскамі; Святы Сімяон Полацкі; абноўлены храм.







БелТА.

КНІГАЗБОР

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ГІСТОРЫІ

Сёлета ў пачатку верасня ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" пабачыў свет пяты том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Гэта выданне — важкі ўклад у скарбніцу духоўнай культуры Беларусі, таму што ў ім у выглядзе сціслых, лаканічных артыкулаў адлюстраваны складаны шлях гісторыі беларускага народа, яго культуры, дзяржаўнасці і г. д. Стваральнікі кнігі імкнуліся, каб адлюстраванне мінуўшчыны ў гістарычных артыкулах было адэкватным таму, што мела месца ў жыцці ва ўсёй яго разнастайнасці і супярэчлівасці. У 1993—1997 гадах выйшлі 1—4 тамы "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", усяго іх будзе шэсць, пры гэтым 6-ты том мяркуецца выдаць у 2-х кнігах (2-я кніга будзе ўключаць Дадатак і імянны паказальнік).

Пяты том гістарычнай энцыклапедыі ўключае артыкулы на літары ад "М" да "П", якіх прыкладна 2 тысячы. З іх каля 650 — гэта так званыя персаналіі, г. зн. артыкулы, прысвечаныя ўдзельнікам нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйнага руху, вядомым дзяржаўным, грамадскім, ваенным дзеячам Беларусі, удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, а таксама даследчыкам, якія распрацоўваюць гістарычную праблематыку. У агульную лічбу 2 тысячы ўваходзяць таксама артыкулы пра гістарычныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі, пачынаючы са старажытных часоў да нашых дзён, пра беларускія арганізацыі, партыі, перыядычныя выданні, помнікі культуры, археалогіі, населеныя пункты, адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел і г. д.

Разам з вядомымі постацямі ў кнізе шмат новых асоб, пра якіх з'явілася магчымасць сказаць у наш час. Пэўную колькасць складаюць тэарэтычныя артыкулы, што даюць чытачу магчымасць азнаёміцца з сучасным вызначэннем гістарычных паняццяў і тэрмінаў. Крыніцазнаўчыя артыкулы прысвечаны летапісам, статутам, інвентарам, архівам, навуковым выданням, перыядычнаму друку. Найбольш грунтоўны з іх — "Метрыка Вялікага княства Літоўскага". Шэраг артыкулаў прысвечаны нашым землякам — ураджэнцам Беларусі, якія жылі і працавалі за межамі Бацькаўшчыны і пакінулі прыкметны след у гісторыі і культуры іншых краін і народаў, унеслі важкі ўклад у сусветную культуру.

Можна прывесці прыклады найбольш цікавых артыкулаў. Гэта "кусты" артыкулаў пра старажытныя беларускія гарады — Мінск, Магілёў, Нясвіж, Навагрудак, Оршу, Пінск, Полацк. Грунтоўны артыкул прысвечаны Адаму Міцкевічу, выдатнаму паэту, які паходзіў з Навагрудчыны і 200-годдзе з дня нараджэння якога святкавалася ў 1998 годзе. Пэўная колькасць матэрыялаў тычыцца нацыянальнай праблематыкі — нацыянальная палітыка, нацыя, нацыянал-дэмакратызм, нацыянальныя меншасці. Не застануцца па-за ўвагай чытачоў артыкулы пра мінскае патрыятычнае падполле і новую эканамічную палітыку, пра падзеі Паўночнай вайны на беларускіх землях, пра паўстанні 1794, 1830—1831, 1863—1864 гадоў, гісторыю паходжання і распаўсюджвання герба "Пагоня" на беларускіх абшарах, пра перапісы насельніцтва на Беларусі, першы падзел Рэчы Паспалітай, падзеі першай сусветнай вайны, пра Полацкае княства — адно з самых старажытных дзяржаўных утварэнняў усходніх славян, пра гісторыю праваслаўнай царквы на тэрыторыі Беларусі.

Выданне багата ілюстравана — у ім больш за 400 чорна-белых і каляровых ілюстрацый, больш за 200 партрэтаў персаналій, 60 карт і схем. У стварэнні кнігі ўдзельнічалі беларускія вучоныя, у тым ліку гісторыкі і археолагі з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — з Інстытута гісторыі, літаратуры, мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, супрацоўнікі Скарынаўскага цэнтра, выкладчыкі гістарычных кафедр вышэйшых навучальных устаноў Мінска, Гродна, Гомеля, Брэста, Віцебска, а таксама даследчыкі з Масквы і Санкт-Пецярбурга, навукоўцы з Літвы і Польшчы — усяго каля 400 чалавек. Можна параіць усім зацікаўленым асобам: навукоўцам, выкладчыкам, студэнтам, школьнікам, а таксама ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, не прапусціць гэтае цікавае грунтоўнае выданне. Найбольш танна яго можна набыць у магазіне пры выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя".

**Ларыса ЯЗЫКОВІЧ.**

**БІБЛІЯТЭКА ААН**




На факультэце міжнародных адносін Белдзяржуніверсітэта адкрылася дэпазітарная бібліятэка ААН. Яна створана ў рамках фундаментальнай бібліятэкі БДУ пры матэрыяльна-тэхнічнай і арганізацыйнай падтрымцы сумеснага праекта "Цэнтр па вывучэнню ААН", Праграмы развіцця ААН, Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў і Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Бібліятэка атрымала значную колькасць матэрыялаў ААН, якія з гэтага дня даступныя для студэнтаў і шырокай публікі.

Важны элемент дэпазітарнай бібліятэкі — камп`ютэрная сетка, што мае выхад у Інтэрнет і дае магчымасць карыстацца шырокай інфармацыяй на аанаўскіх старонках у Інтэрнеце. Да паслуг наведвальнікаў бібліятэкі і камплект кампакт-дыскаў, які будзе папаўняцца новымі выпускамі. Бібліятэка адкрывае вялікія магчымасці ў вывучэнні міжнародных адносін дзяржаў — членаў ААН.

**МІНСК, ЗАХАРАВА 28, ДОМ ДРУЖБЫ**

# БЕЛАРУСІСТ Арнольд МАКМІЛІН

У Доме дружбы адбылася арганізаваная сумесна з Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў вечарына "Беларуска-англійскія культурныя сувязі".

Пачалася яна з агульных аглядаў беларуска-англійскіх дачыненняў у разнастайных — ад літаратуры да музыкі — галінах культуры, зробленых Адамам Мальдзісам, Віктарам Скорабагатавым і ўнучкай Якуба Коласа Марыяй Міцкевіч. Гаварылася пераважна пра самае значнае, чым займаюцца тыя, хто стараецца папулярызаваць беларускую культуру. Згадвалі пра выключную ролю ў гэтай справе бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане, якая дзейнічае з 1971-га года, і айца Надсона, пра беларусістаў Дзінглі, Мэя, Рыч і іншых.

Асобна была адзначана дзейнасць аднаго з самых вядомых вялікабрытанскіх беларусістаў Арнольда Макміліна, прафесара літаратуры Лонданскага універсітэта, аўтара шэрагу значных даследаванняў па беларускай мове і літаратуры, сярод іх "Гісторыя беларускай літаратуры ад яе вытокаў да сённяшніх дзён".

Дарэчы, сам Макмілін прысутнічаў на вечарыне. Візіт яго ў Мінск адбываўся ў сувязі з удзелам у IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Славянская літаратура ў кантэксце сусветнай". Госць падрыхтаваў даклад "Вяртанне на радзіму беларускай літаратуры: выпадак Наталлі Арсенневай".

— На жаль, мой прыезд на Беларусь вельмі кароткачасовы з прычыны выкладчыцкай занятасці, — зазначыў госць. — Але і на гэты раз маю вялікую радасць ад знаходжання тут, а да таго выкарыстоўваю шанц прадставіць маю новую, між іншым, выдадзеную толькі некалькі тыдняў таму ў Нямеччыне кнігу "Гісторыя беларускай літаратуры ў 50-60-я гады". Дарэчы, наступны год будзе ў мяне больш вольна творчы, і я збіраюся прыехаць да вас ужо надоўга. Ёсць намеры выдаць кнігі па гісторыі сучаснай беларускай літаратуры і літаратуры беларускага замежжа.

Цікавай ілюстрацыяй беларуска-англійскіх культурных сувязей была мастацкая частка праграмы: выстава выданняў, прысвечаных Беларусі, што выходзілі ў Вялікабрытаніі, дэкламацыя студэнтамі вершаў Якуба Коласа на англійскай мове, выкананне песень са зборніка "Куранты" ад 1733-га года, дзе прысутнічае беларускамоўны элемент, знойдзенага і ўпершыню даследаванага менавіта Арнольдам Макміліным. А напрыканцы быў паказаны ўрывак з камедыі Францішка Аляхновіча "Чорт і баба" з рэпертуару тэатра "Дзе-Я". Гэты тэатр, пастаянны ўдзельнік фестываляў у Абердзіне, іншых гарадах Вялікабрытаніі, паказвае спектаклі як па-беларуску, так і па-англійску.



**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ**

# АГУЛЬНАЯ МІНУЎШЧЫНА ПАТРАБУЕ ПАШАНЫ

● **Леў МІРАЧЫЦКІ.**

*Духоўнае здароўе народа ў значнай ступені вызначаецца яго адносінамі да мінулага.*

**Васіль БЫКАЎ.**

У старажытнасці ўсходняе ўзбярэжжа Балтыйскага мора, што прасціраецца ад Віслы да Заходняй Дзвіны (Даўгавы), насялялі індаеўрапейскія плямёны, якія з цягам часу сталі называцца "балцкімі". Гэта і былі продкі сучасных літоўцаў і латышоў. Да найбуйнейшых з іх належалі аўкштайты (аўкштоты), якія жылі на ўсходняй частцы абшару. Ад ракі Нявежыса да ракі Юры рассяліліся жэмайты (жмудзіны), між Віслай і Нёманам — прусы. Землі яцвягаў (яцвінгаў, судуваў) прасціраліся на поўнач ад Белавежскай пушчы, паміж Заходнім Бугам і вярхоўем ракі Шашупэ. На захадзе ад жэмайтаў да Балтыйскага ўзбярэжжа ўсталяваліся куршы, у сярэднім і ніжнім цячэнні ракі Ліяхупэ — земгалы. На ўсход ад іх бытавалі селы, а на поўнач ад Даўгавы — латгалы.

Сляды аселасці балцкіх лета-літоўскіх плямёнаў сягаюць у далёкае мінулае. Яны пасяліліся тут, як мяркуюць вучоныя, ужо ў IV стагоддзі да нашай эры і займалі сярэднюю паласу земляў Беларусі і ўсходнюю частку Літвы. Ім не прыходзілася адчуваць нястач у побытавых матэрыялах, бо паблізу хапала лесу, гліны, каменняў, балотнай руды для вырабу прыладаў працы. Іх традыцыйным заняткам стала земляробства, жывёлагадоўля, паляванне, лоўля рыбы, бортніцтва, хатні промысел. Аднак з надыходам часу "вялікага перасялення народаў", якія прыпадаюць на VI—VIII стагоддзі, на гэтых землях пачалі мірна рассяляцца славяне-крывічы, што прыводзіла да змешвання з мясцовымі плямёнамі і паступовага складвання "балцкакрэўскай" супольнасці. Зразумела, што цяпер усім давялося сумесна бараніцца ад чужаземцаў, якія імкнуліся іх аграбіць і запрыгоніць. Асабліва небяспечнымі сталі набегі скандынаўскіх грабежнікаў, а таксама славянскіх паммораў і мазураў.

Баронячыся ад ваяўнічых прышэльцаў, мясцовым жыхарам прыходзілася ўдасканальваць арганізацыю абароны, на чале якой стаяў князь. Выключна мужна змагаліся за сваё існаванне прусы і яцвягі, але потым і самі неаднойчы рабілі напады на суседзяў. Даволі часта ішла барацьба паміж прусамі і мазурамі, якія стараліся далучыць першых да хрысціянскай веры. Дайшло нават да таго, што прусы ў роспачы, каб не здраджваць паганскім багам і святыням, забілі місіянера-святара Войцеха з Чэхіі, патронам якога з`яўляўся сам лехіцкі (польскі) кароль Баляслаў Хробры. Гэта забойства паслужыла прычынай ваеннага нападу на землі літоўскага племені прусаў і захопу значнай тэрыторыі. Але такая помста не толькі не застрашыла, а яшчэ больш згуртавала прусаў, і яны зноў пачалі арганізоўваць напады на мазавецкія землі, забіраючы ў палон мноства мірнага насельніцтва. У выніку мазавецкія князі вымушаны былі звярнуцца па падтрымку да прыхільнікаў і заступнікаў хрысціянскай веры. З гэтай прычыны мазавецкі князь Конрад стварыў у Добжыне спецыяльны рыцарскі ордэн для барацьбы з паганскімі прусамі. Але занадта сціплай была яго колькасць, і такая мера не дапамагла. Прусы аказаліся больш арганізаванымі і мацнейшымі. Яны без асаблівых намаганняў знішчылі Добжынскі ордэн. Тады князь Конрад запрасіў нямецкі ордэн крыжакоў, магістру якога Герману Сальцу ахвяраваў хэлмінскую зямлю, што ляжала на пагранiччы з прусамі (1228 год). Тут, у Турані, Хэлмно, Эльблёнгу, Марыенбургу і іншых паселішчах, крыжакі хутка ўзвялі магутныя ўмацаванні — замкі, адкуль нападалі на землі прусаў і без літасці знішчалі патрыётаў гэтага краю.

Пад націскам крыжакоў прусы ўцякалі на ўсход альбо хаваліся ў лясах і пушчах, іх землі засяляліся прышэльцамі з захаду — немцамі, а з поўдня — мазурамі. Так адбывалася каланізацыя прускай зямлі.

Падобны лёс напаткаў і яцвягаў. Пасля нападу на іх у 1256 годзе галіцка-валынскіх князёў яцвягі зусім зніклі з карты Літвы, іх абшары былі каланізаваны і паступова страчвалі свой першародны характар.

Паралельна паўстае пытанне: што ж уяўлялі сабою славяне, якія прыйшлі ў Еўропу з Азіі? Гоцкі храніст Іардан лічыў, што іх назва паходзіць з адной асновы — кораня і "вядома пад трыма найменнямі: венедаў, антаў, склавенаў". Вучоныя мяркуюць, што першапачатковыя славяне спыніліся на тэрыторыі, якая знаходзілася ў сярэднім Падняпроўі (на поўдзень ад Прыпяці). У першыя стагоддзі нашай эры яны рассяліліся ў верхнім Прыднястроўі, Паўночным Прыкарпацці і ў басейне Віслы. У VI—VII стагоддзях іх наплыў адчулі ўжо ілірыйскія і фракійскія плямёны на Балканах. Паступова склаліся тры групы славян — усходнія, заходнія і паўднёвыя. Затым яны паклалі аснову для далейшых этнічных утварэнняў. Гэты працэс стаўся даволі працяглым і складаным. Каб замацавацца на новых землях, ім прыходзілася ўступаць ва ўзаемаадносіны з іншымі этнічнымі групамі. Так, усходнія славяне, у якіх складваліся асобныя плямёны, пры наладжванні самакіравання і кантактаў з іншымі групамі плямёнаў (са Скандынавіі — нарманаў), асабліва з варажскім племенем русаў, адначасова ўспрынялі і іх найменне. Гэтаму пасадзейнічалі варажскія браты Рурык, Сінеус і Трувор, якія ўмела скарысталі запрашэнне ўсходнеславянскіх паслоў і з 862 года пачалі "княжыць і валодаць" іх землямі.

---

**(Працяг будзе).**

**ЗАМЕЖЖА**

# БЕЛАРУСКІЯ ЯЎРЭІ Ў АНГЛІІ

На брытанскай зямлі яшчэ раней за Шэнберга раскрыўся матэматычны талент ураджэнца Ваўкавыскага павета **Цві-Гірша (Гершла-Філіпа) ФІЛІПОЎСКАГА.** Ён прыехаў у Англію ў 1839 годзе ў 23-гадовым узросце. Працуючы ў страхавой кампаніі ў Эдынбургу, Філіпоўскі апублікаваў у 1849 годзе матэматычную працу "Антылагарыфмы", якая не страціла сваёй навуковай каштоўнасці да нашых дзён. Гэты чалавек быў таксама выдатным гебраістам, выдаўцом і пісьменнікам. У 1851 годзе Філіпоўскі заснаваў Таварыства для вывучэння і публікацыі помнікаў сярэдневяковай яўрэйскай пісьменнасці. Ён выдаў у Лондане і Лейпцыгу два выпускі зборніка артыкулаў на старажытнаяўрэйскай мове, прысвечаных даследаванню яўрэйскіх рукапісаў па літаратуры і матэматыцы. У 1862 годзе Філіпоўскі апублікаваў кішэнны малітоўнік з уласным перакладам на англійскую мову. Ён выдаваў творы яўрэйскіх пісьменнікаў. Першая работа "Моэд Моадзім" — пра яўрэйскі, хрысціянскі, мусульманскі і караімскі календары была апублікавана ў 1846 годзе. Пяру Філіпоўскага належыць пераклад з лацінскай на англійскую мову работы "Канон лагарыфмаў". Яго жыццёвых шлях закончыўся ў Лондане ў 1872 годзе.



*Хаім ВЕЙЦМАН.*

Брытанскі перыяд жыцця і дзейнасці быў важнай вяхой у біяграфіі многіх палітычных дзеячаў і вучоных — беларускіх яўрэяў.

Добра вядомы наш знакаміты зямляк — першы прэзідэнт дзяржавы Ізраіль, палітычны дзеяч і вучоны-хімік **Хаім Вейцман.** Ён нарадзіўся ў 1874 годзе ў мястэчку Моталь, непадалёку ад Пінска (сёння в. Моталь Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці).

Англійскі перыяд жыцця і дзейнасці яго быў у многім знамянальны і даволі плённы. Пачаўся ён у 1904 годзе, калі Вейцману ішоў 30-ты год. Менавіта тады ён заняўся навуковай працай у Манчэстэрскім універсітэце і ажаніўся са студэнткай медыцынскага факультэта гэтага універсітэта Верай Хацман з Растова-на-Доне. У гэты перыяд пачынае складвацца прабрытанская арыентацыя Хаіма Вейцмана.

У час першай сусветнай вайны вучоны прыдумаў новы спосаб вытворчасці ацэтону, неабходнага для вырабу боепрыпасаў, што было высока ацэнена ўрадам Вялікабрытаніі і памагло Вейцману наладзіць неабходныя кантакты з урадавымі коламі гэтай краіны, у тым ліку з некаторымі міністрамі.

Дэкларацыя Бальфура, апублікаваная 2 лістапада 1917 года, была першым значным дасягненнем сіяніцкага руху. Цікава, што яўрэйства ўсяго свету спрыяльныя адносіны англійскага ўрада да стварэння яўрэйскага нацыянальнага ачага ў Палесціне прыпісвала ў асноўным Хаіму Вейцману. Пасля апублікавання Дэкларацыі Бальфура ён стаў адным з самых папулярных лідэраў сіяніцкага руху.

У 1920 годзе на сіяніцкай канферэнцыі ў Лондане Вейцман быў абраны прэзідэнтам Сусветнай сіяніцкай арганізацыі. Ён займаў гэты пост у 1920—1931 і ў 1935—1946 гадах. У 1937 годзе пераехаў з Англіі ў Палесціну, дзе пасяліўся ў горадзе Рэхавоце.

Ізраільскі ўрач і паразітолаг **Шауль Адлер** нарадзіўся ў Беларусі, у мястэчку Карэлічы, у 1895 годзе. У 1900 годзе, у пяцігадовым узросце, ён пераехаў з бацькамі ў Англію. Шауль вывучаў медыцыну ва універсітэце Лідса, спецыялізаваўся па трапічных захворваннях у Ліверпулі. У час першай сусветнай вайны Адлер служыў урачом і паталагам у брытанскай арміі. У 1924 годзе ён пераехаў у Іерусалім і пачаў працаваць у Яўрэйскім універсітэце. Адлер узначальваў навуковыя экспедыцыі ад Лонданскага Каралеўскага Таварыства на астравы Ціхага акіяна. У 1934 годзе Англійскае Каралеўскае Таварыства трапічных хвароб узнагародзіла яго залатым медалём імя Чалмерса. Адлер пераклаў на іўрыт працу Ч. Дарвіна "Паходжанне відаў". У 1957 годзе быў удастоены Дзяржаўнай прэміі Ізраіля.

Нават гэты кароткі агляд сведчыць, што нашы землякі пакінулі значны след у развіцці Вялікабрытаніі. Імёны некаторых з іх вядомыя сёння ўсяму свету.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**прафесар, доктар гістарычных навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей.**

---

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 45.**



СВЯТЛО РАМПЫ

**У Брэсце адбыўся чацвёрты Міжнародны тэатральны фестываль "Белая Вежа". За 5 дзён на сцэнах абласнога драматычнага і лялечнага тэатраў прайшло дваццаць два спектаклі. Іх убачылі 6 тысяч гледачоў.**

# «БЕЛУЮ ВЕЖУ» ПАВЁЗ «СТОМЛЕНЫ Д'ЯБАЛ»



*Уладальнік галоўнага прыза фестывалю рэжысёр спектакля "Стомлены д'ябал" Рыд ТАЛІПАЎ.*

## АНШЛАГ

За два тыдні да першых пазыўных IV Міжнароднага тэатральнага фестывалю "Белая Вежа" ў тэатральных касах білетаў не было. На прэс-канферэнцыі нам заявілі коратка: аншлаг, на ўсе спектаклі білеты прададзены. Але, як вядома, дэфіцыт толькі падаграваe жаданне. Напэўна, таму на некаторыя спектаклі былі прададзены нават уваходныя білеты без месцаў. Самымі папулярнымі на "Вежы-99" сталі пастаноўкі "Перакрыжаванне" Маскоўскага тэатра-цэнтра імя Ярмолавай з Элінай Быстрыцкай у галоўнай ролі і "Танец смерці" Рыжскага акадэмічнага тэатра рускай драмы. Спецыяльна для ўдзелу ў гэтым спектаклі на адну з галоўных ролей была запрошана актрыса тэатра Дайлес, вядомая Ліліта Озаліня.

Аншлаг! На ўсіх спектаклях фестывалю, уключаючы ранішнія, глядач запаўняў тэатральную залу поўнасцю. Удзельнікі "Белай Вежы", якім прапаноўвалася пасля трэцяга званка займаць незанятыя месцы, часта назіралі за работай калег стоячы.

Так брэстчане самі зрабілі сабе камплімент. І калі некалькі гадоў назад сталічныя крытыкі заяўлялі нам, што ў Брэсце не хапае фестывальнага духу, то сёння на гэты конт заезджым гасцям сказаць няма чаго.

IV Міжнародны тэатральны фестываль "Белая Вежа" зрабіў галоўнае: глядач вярнуўся ў партэр, амфітэатр і нават на балкон. Тэатральны фестываль стаў момантам асобага існавання, калі прыніжаная часам інтэлігенцыя адчула сваю значнасць. Нешта ж у гэтым жыцці існуе і дзеля думкі.

"Вежа" даказала: гэта не проста правінцыяльны фестываль, пра яго варта гаварыць сур'ёзна.

Апошнія гады шмат спрачаліся, якую канцэпцыю выбраць для "Белай Вежы". Адна з версій гучала вельмі цікава: аб'явіць "Белую Вежу" фестывалем эксперыментальных тэатральных форм. Але на чацвёртым годзе жыцця фестываль атрымаў ад мінскай крытыкі нейкае паслабленне, быццам з гэтага часу і не трэба прыдумваць складаную канцэпцыю "Белай Вежы", дастаткова, каб у аснову фестывалю была пакладзена гуманістычная ідэя. Такое абстрактнае паняцце можа аб'яднаць любыя спектаклі.

Па шчыраму прызнанню дырэктара тэатра драмы і музыкі, аднаго з арганізатараў фестывалю Аляксандра Козака, "Белая Вежа" — гэта сход сяброў". Трэба, каб нашы намеры супалі з жаданнем тэатральных калектываў выступіць на брэсцкіх падмостках альбо бясплатна, альбо за невялікую плату.

Калі ўлічваць галоўны крытэрый адбору тэатральных калектываў, даводзіцца прызнаць, што ў такіх неспрыяльных умовах афіша IV "Белай Вежы" атрымалася нядрэннай.

Па-мойму, упершыню брэсцкі тэатральны фестываль паказаў усе спектаклі досыць высокага ўзроўню.

## З ВЫШЫНІ АМФІТЭАТРА

Адзін з самых яркіх спектакляў фестывалю, без сумнення, "Дэметрыус". Новая работа рэжысёра Барыса Луцэнкі выклікала цэлы шквал крытыкі. Мінскі тэатразнаўца Тамара Гаробчанка назвала спектакль прыкладам літаратурнага тэатра 60-х гадоў і знайшла ў гэтым подых мінулага.

Іншыя крытыкі сталі сцвярджаць, што спектакль, задуманы Луцэнкам, так непадобны на п'есу Шылера, па якой нібыта пастаўлены, што пастаноўка ў любым выпадку не магла атрымацца. Луцэнка ставіў "Дэметрыуса" як твор, што заклікае да самасвядомасці нацыі, а Шылер пісаў п'есу, у якой не было нічога славянскага. Таму Ілжэдзмітрый, убачаны Барысам Луцэнкам, паўстаў перад гледачом фігурай туманнай. Не варта вінаваціць і Аляксея Шадзько, які сыграў галоўную ролю ў спектаклі. Не, акцёр не змог паказацца гледачу царскай персонай — ён толькі сыграў задуму рэжысёра. Ці хацеў Барыс Луцэнка, каб глядач Ілжэдзмітрыю верыў? Магчыма. Але я не паверыла. Ёсць у спектаклі яркая падказка: не вер! Калі Ілжэдзмітрый выступае перад сеймам няшчасным прасталюдзінам, то вяльможныя паны адкрыта маняць, гаворачы яму, што па выпраўцы і па словах бачаць у ім цара. Але "Дэметрыус" — значная з'ява ў праграме фестывалю. Нездарма крытык Наталля Ермакова сказала пра спектакль: "...страсная, глыбока прачулая праца рэжысёра".

Маштабным творам "Белай Вежы" стаў і спектакль Рыжскага тэатра рускай драмы "Танцы смерці". Ігралі Стрындберга. Чыталі філасофскую п'есу самага дзіўнага і загадкавага драматурга сучаснасці. Чыталі нервова, з надрывам і, як спачатку здалося, пераігрывалі. Таму пачатак спектакля выглядаў крыху цяжкім. Але праз нейкі час магія тэатра, магія высокага мастацтва выступіла на авансцэну, і прапанаваную рыжанамі стылістыку спектакля глядач прыняў безагаворачна. Віртуозная ігра вядучай акцёрскай пары Ліліта Озаліня — Якаў Рафальсон выклікала захапленне. У вялікіх вокнах дэкарацый адлюстроўвалася вада збудаванага на сцэне басейна, і гэтая бясконцая лёгкая зыб быццам нагадвала: людскія намеры такія нязначныя, такія дробныя перад стыхіяй страсцей, перад стыхіяй падзей, прадвызначаных Богам. Сцэнаграфія Андрыса Фрэйбергса такая карцінная, быццам кожная мізансцэна створана спецыяльна для аднаго-адзінага "залатога" кадра, што прадстаўляе ўвесь спектакль. Уражвае, як матэматычна дакладна расстаўлены фігуры акцёраў, і ў той жа час у гэтай камбінацыі няма нічога класічнага, нічога традыцыйнага.

Нервовасць рытму чытаецца і ў харэаграфічных эпізодах "Танцаў смерці", пастаўленых балетмайстрам Алай Сігалавай. Яе танцы смерці — не проста асуджанасць, гэта барацьба характараў нават за апошняй рысай адчаю. У Сігалавай жыццё б'е, пульсуе апрача волі герояў, і гэтую данасць трэба прыняць з высока ўзнятай галавой.

На IV "Белай Вежы" Стрындберга ігралі двойчы. І другое прачытанне моднага драматурга было такім жа таленавітым. Яго п'есу "Міс Джулія" прывезлі на фестываль артысты са Швецыі. Трагічны твор разыгрываўся клоунамі. Самымі сапраўднымі клоунамі з "паманымі" жэстамі і прыклеенымі насамі.

Лёгка гаварыць аб недахопах пастаноўкі, але цяжка — аб вартасцях. Таму што таленавіты твор сплятаецца з такіх тонкіх матэрый, што швоў не відаць. І гэтаму хітрасплячэнню не знайсці назвы. Лёгкасць шведскай "Джуліі" не азначала пустату, трагізм не быў надрыўным, філасофія не навязвалася. Тканіна спектакля ўяўляла самы тонкі малюнак, у якім камедыя "ўпадала" ў трагедыю, амаль не мяняючы асноўнага колеру, хіба што лёгкае адценне прымушала гледача зглынуць камяк у горле і зноў засмяяцца.

Ніводны спектакль фестывалю не быў сустрэты публікай так, як шведская "Міс Джулія". Калі ў зале запалілася святло, гледачы наладзілі сапраўдную авацыю.

Сталыя наведвальнікі фестывалю ў сваіх афішах паставілі "птушачкі" насупраць "Міс Джуліі". У кулуарах спектаклю прарочылі Гран-пры, гаварылі, што "шведы ідуць далёка наперадзе". Але журы аддало Гран-пры рэжысёру Рыду Таліпаву за яго работу "Стомлены д'ябал".

П'есу маладога беларускага драматурга Сяргея Кавалёва Рыд Таліпаў паставіў з акцёрамі Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі "Вольная сцэна". Яшчэ не чуўшы першых слоў, сказаных са сцэны, можна было пазнаць почырк рэжысёра па яго любімых трох колерах: пераважалі чорны, чырвоны, белы. Рыд Таліпаў вядомы сваімі пастаноўкамі, напоўненымі эстэцтвам. І таму, збіраючыся на яго спектакль, яшчэ дома можна сцвярджаць: будзе прыгожа. А прыгожае мы любім.

Вечны сюжэт спакушэння простага чалавека магутным д'ябламам адзначаны ў п'есе новай нотай. Д'ябал выклікае спачуванне ў гледача. Ён стомлены людской недасканаласцю. Ён даўно не верыць у сілу духу чалавека, і яму ўжо нецікава яго спакушаць. "Навошта вам д'ябал, — кідае нячысцік у залу, — калі ў вас Бога няма?" Гэтая фраза прымусіла задумацца атэістаў, а веруючых людзей глыбока знявaжыла. Фактычна Рыд Таліпаў паставіў Бога і д'ябла на адну прыступку, як роўных. І таму спектакль здаўся мне спекуляцыяй святой ідэяй. Аднак крытыкі назвалі пастаноўку Рыда Таліпава апалітычнай і знайшлі ў гэтым яе вялікую вартасць.

## ТРЫУМФ

Падвяла рысу цырымонія ўзнагароджання. Заахвочвальныя дыпломы "За творчы пошук" атрымалі Харкаўскі тэатр лялек за спектакль "Скупы рыцар" і мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" за спектакль "Пакінуты ўсімі". Заахвочвальны прыз фестывалю за эпізадычную ролю Пеўня ў спектаклі "Гадкае качаня" аддалі Аляксею Баравічову (Краснадар). Ліліта Озаліня была ўзнагароджана дыпломам фестывалю за яркае выкананне ролі Алес у спектаклі "Танцы смерці". Узнагароду "За вялікі ўклад у развіццё беларускага драматычнага мастацтва" атрымаў брэсцкі рэжысёр і акцёр Сяргей Еўдашэнка. "За ўклад у развіццё лепшых традыцый нацыянальнай драматургіі" адзначаны драматург Сяргей Кавалёў.

Прыз "За лепшую мужчынскую ролю" дастаўся артысту тэатра лялек Ігару Вярсце (роля Асляняці ў спектаклі "Брацец Асёл", горад Брэст). Прызам "За лепшую мужчынскую ролю" быў узнагароджаны і артыст шведскага тэатра "Маньяна" Берт Градзін. "За лепшую жаночую ролю" сярод лялечнікаў узнагароджана Люцыя Зарубайтэ (роля Тыграняці ў спектаклі "Тыграня Петрык", горад Каўнас), "лепшую жаночую ролю" ў драме выканала артыстка Люблінскага тэатра Ядвіга Ярмул (спектакль "Крэслы").

Гран-пры фестывалю сярод лялечных тэатраў атрымаў амерыканец Джым Гембл. А галоўны прыз сярод драматычных тэатраў дастаўся "Вольнай сцэне" — Рыд Таліпаў, "Стомлены д'ябал".

**Таццяна ШАЛАМАВА.**



*Сцэна са спектакля Рускага драматычнага тэатра імя Горкага "Дэметрыус".*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Святлана АДАМОВІЧ**



### РОЗДУМ АБ ВЕЧНЫМ

Нам часта
мроіцца
каханне
Там, дзе яго
зусім няма,
І дорыць нам
вясна
спатканне,
Расстанне —
лютая зіма.

А крык-малітва застывае
Ў халодным звоне ледзяшоў.
Мая душа — душа жывая —
Замуравана ў глыб вякоў.

Усё ў прыродзе знітавана,
І повязь нам не разарваць.
На небе ўсё запланавана:
Калі кахаць, калі знікаць...

Заве у Вечнасць голас продкаў —
Жывыя клічуць на Зямлю...
Сярод сяброў і аднагодкаў
Аб ратаванні я малю.

Душа ў разгубленасці млее,
Дзе месца ёй знайсці сабе?
Калі каханне не сагрэе,
Застыне ў ледзяной журбе.

З пытаннем я іду да Бога,
Але ў царкве пустой зіма...
І час спыніўся ля парога...
Кахання на Зямлі няма...

Застыла, знікла ці замерзла?
Вярніся! Я цябе прашу...
Надзея ў сэрцы уваскрэсла,
Сагрэла хворую душу...

І сад зацвіў зімою злою.
Каханне крочыць па Зямлі.
Вось так калісьці мы з табою
Злучыцца ў Вечнасці змаглі.

### ЧОРНЫ БОЛЬ

*(ПЕСНЯ)*

Пустыя двары, пустая сяліба...
Пустыя калодзежы, чорныя рэкі, зямля...
З той самай пары наўкола маўкліва-
маўкліва,
І чорным палынам ужо зарастае ралля.

Чужыя лясы, чужыя мясціны...
А сэрца баліць і ірвецца назад,
Да той паласы, дзе продкаў стаялі хаціны,
Дзе ў квецені чорнай слязьмі абліваецца
сад.

Самотныя твары, самотныя вочы...
Слязьмі абзавецца адчай і туга...
О, светлыя мары! Прыходзіце вы толькі
ўночы.
Там дзеці бягуць басанож па зялёных
лугах.

А людзі просяць, моляць Бога:
— Нам даруй грахі!
Не праклінай, не пагарджай!
Мы пракладзем шляхі...
Маліцца, верыць і кахаць,
Гасподзь, нас навучы.
І чорны пыл, і чорны боль
Развеюцца ўначы...

* * *

Мне да ранку цяпер не заснуць,
Бо душа растрывожана шчасцем...
Думкі хваляй імклівай плывуць,
Як у ноч перад першым прычасцем.

Не зважаю на горыч нягод,
Сэрца прагне адчуць асалоду,
Чорных думак спыніць карагод,
Перайначыць людскую прыроду.

Думкі светлыя выпусціць ў свет —
Хай на іншых спагадай пральюцца.
Споўніць продкаў сваіх запавет,
І уранку шчаслівай прачнуцца.

Мне пачуццяў сваіх не стрымаць,
І цяпер не засну да світання...
Буду ў памяці моцна трымаць
Незгасальную радасць прызнання.

### СЯБРУ Ў ЗІМОВЫ ДЗЕНЬ

Нядаўна цуд адбыўся: выпаў снег.
Хаця у гэты час і ён не дзіва.
Спыні, мой сябра, на хвіліну бег
І ўслухайся ў завеі спеў цярпліва.

І ты адчуеш, што прыйшла ЯНА —
Халодная, разважлівая пані,
Прыгожая, чароўная зіма
З нязменнымі снягамі-дыванамі.

І робіцца так лёгка на душы...
І шчасце ў сэрцы полымем ірдзее...
Ты напішы, мой дружа, напішы
Зімовую мелодыю надзеі...

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# АДКРЫЙ АМЕРЫКУ

508 years ago the famous Italian navigator and explorer Christopher Columbus headed a Spanish expedition in search of treasure. He set off on a voyage across the Atlantic and discovered America.

Паўтары шлях Калумба разам з сябрамі. Знайдзі лічбу "1". Тут кожны павінен "сесці" на свой "карабель" — караблікі вылепім з пластыліну. Кідаем косць і ... Паплылі!

Папоўні запасы пітной вады — прапусці адзін ход.

Выратуй экіпаж карабля, які тоне, — прапусці два хады.

Асцярожна: гіблае месца — ідзі ў абход.

Твой карабель тоне. Выхад з гульні.

Ура! Ты адкрыў Амерыку! Перасоўвай свой карабель на № 16.

# ПЯРУН

Дзень 28 лістапада ў беларускім народным календары прысвечаны ўшанаванню Міхайлы — свята, які абараняў людзей ад грому — незвычайнай і вельмі небяспечнай для нашых продкаў нябеснай з'явы. Дарэчы, у старадаўнія часы людзі так тлумачылі прычыны з'яўлення грому. Пярун, бог нябеснага агню, седзячы ў вогненнай калясніцы, раз'язджае па небе і назірае адтуль за людзьмі. Калі ён убачыць, што недзе творыцца беззаконне, вінаватых чакае пакаранне ад яго каменных стрэл.

Пярун, паводле ўяўленняў беларусаў, — велічны, статны, высокага росту, з чорнымі валасамі і доўгай залатой барадою. Пярун узброены лукам і стрэламі. Яго лук — каменны молат, часам вясёлка, яго стрэлы — маланкі. Або, казалі, Пярун трымае ў руках два велізарных жорны, трэ імі і стукае адзін аб адзін, у выніку чаго грыміць гром і бліскае маланка.

Пярун — галоўны вораг нячыстай сілы: лічыцца, што чэрці ніколі не паміраюць і забіць іх можа толькі гром — кожны яго ўдар абавязкова трапляе ў нячысціка. Таму яны вельмі баяцца Перуна (існуе нават прыказка "баяцца, як чорт грому") і спакойна сябе адчуваюць толькі ў добрае надвор'е. У час навальніцы чэрці часта хаваюцца пад дрэвам, таму людзям небяспечна шукаць там паратунку: замест чорта Пярун можа забіць чалавека. Нячысцікі ж ведаюць, што Пярун любіць людзей і беражэ іх, таму, пачуўшы першы ўдар грому, імкнуцца схавацца за чалавека ці нават забегчы да яго ў хату. Часам удар, накіраваны ў чорта, паражае чалавека ці запальвае будынак.

Душа забітага Перуном ідзе прама на неба, а ў будучым жыцці Багі абавязкова ўзнагародзяць такога чалавека. Аднак, каб не было няшчасных здарэнняў, падчас навальніцы людзям трэба было абавязкова перахрысціцца і перахрысціць месца вакол сябе — тады, лічылася, чорт ні ў якім разе не падступіцца.

Падрыхтавала **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



Упершыню ў Брэсце — Ялцінскі дэльфінарый з Украіны. Выступленні яго арганізаваны ў рамках праграмы "Людзі-дэльфіны" ў дапамогу выхаванцам дзіцячых дамоў, дзецям з парушэннямі нервовай сістэмы і апорна-рухальнага апарата пры садзейнічанні дабрачыннай арганізацыі "Арт-папячыцель" горада Еўпаторыі.

Для паўднёвых гасцей спецыяльна падрыхтаваны басейн "Нептун", куды толькі марской солі прывезена 20 тон. Дэльфіны Іф і Бой, марскі леў (сівуч) Лайз выдатна адаптаваліся ў Брэсце. Прадстаўленні будуць праходзіць некалькі разоў у дзень да 31 снежня.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

## СКОРАГАВОРКІ

— Дудар дудару дарма грае.

— Белы бусел баіў байку беламу зайку.

— Патап пакаваў пакупнікам пакупкі ў пакункі.

— Раз прывёз Рыгор Цімоху мех арэхаў, мех гароху.

— Пабудзе ў вадзе і нямокры ідзе.

## ЗАГАДКІ

— Сігала — блеск, за блескам — трэск, за трэскам — плеск.

**(Маланка, гром, дождж.)**

— У адной бочцы два розныя піва, боўтаюцца, боўтаюцца, а ніколі не змяшаюцца.

**(Жаўток і бялок.)**

— Што за трава, што сляпы пазнае?

**(Крапіва.)**

— Што без вады плавае?

**(Воблака.)**

## СМЯШЫНКІ

Дачка пытаецца:

— Мама, крапіва кусаецца?

— Кусаецца.

— Дык чаму яна не брэша?

* * *

— Тата, давай завядзём малпачку, — просіць Міхаська. — Будзем глядзець, як яна ператвараецца ў чалавека.


«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар **Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 2197.
Падпісана да друку 15.11.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).